№ 182 (1995)
Серада, 29 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +14...+16, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +15...+17, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +13...+15, без ападкаў, уначы — +10...+12, дождж; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +13...+15, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +13...+15, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

## Уладзімір Ганчарык выбывае з перадвыбарнай барацьбы

27 верасня Вярхоўны суд пацвердзіў прамавоцнасць рашэння Цэнтрвыбаркама аб адмове ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў былога кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка. Палітык балатаваўся ў парламент па 109-й Уруцкай выбарчай акрузе сталіцы.

15 верасня акруговая выбарчая камісія адмовіла У.Ганчарыку ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты на падставе падачы ім несапраўдных подпісаў выбаршчыкаў, сабраных у яго падтрымку. 24 верасня Цэнтрвыбаркам пацвердзіў абгрунтаванасць гэтага рашэння.

27 верасня ў Вярхоўны суд разам з У.Ганчарыкам прыйшлі тры сведкі, чые подпісы былі прызнаны экспертам несапраўднымі. Яны паказалі, што ўласнаручна распісваліся ў падтрымку вылучэння У.Ганчарыка кандыдатам у дэпутаты. Акрамя таго, суду былі прадстаўлены 58 заяў грамадзян, якія пацвярджаюць, што яны ўласнаручна падпісваліся ў падпісных лістах, сабраных ініцыятыўнай групай палітыка. У.Ганчарык запатрабаваў, у мэтах высвятлення ісціны, правесці паўторную незалежную экспертызу подпісаў.

Аднак, нягледзячы на прыведзеныя доказы, пракурор заявіў, што не бачыць падстаў для таго, каб ставіць пад сумненні аб'ектыўнасць праведзенай экспертызы. Яго падтрымала і суддзя.

Вынесенае рашэнне У.Ганчарык назваў "цынізмам вышэйшай ступені". "Нічога іншага я і не чакаў", — сказаў палітык у інтэрв'ю БелаПАН.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Партыйныя лідэры маюць намер сустрэцца з міністрам юстыцыі

Лідэры чатырох палітычных партый — Партыі камуністаў Беларускай, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — маюць намер сустрэцца з міністрам юстыцыі Віктарам Галаванавым.

Як паведаміў БелаПАН лідэр ПКБ Сяргей Калякін, палітыкі хочуць атрымаць адказ міністра аб прычынах пазапланавых праверак арганізацыйных структур, што паўсюдна ажыццяўляюцца абласнымі ўпраўленнямі юстыцыі. Толькі ў ПКБ, паведаміў С.Калякін, былі знятыя з уліку ўсе "пярвічкі" ва Ушацкім раёне (Віцебская вобласць), а таксама шэраг партарганізацый у Брэсцкай вобласці і Мінску. У выніку ПКБ пазбавілася трох кандыдатаў у дэпутаты, якія балатаваліся ў названых выбарчых акругах. Падобная сітуацыя і са структурамі іншых дэмакратычных партый.

Як лічыць С.Калякін, у гэтым выпадку органы юстыцыі на месцах "груба парушаюць закон "Аб палітычных партыях".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Амерыканскі прафесар узнагароджаны ордэнам Ф.Скарыны

За вялікія заслугі ў гуманітарнай і дабрачыннай дзейнасці медыцынскі дырэктар міжнароднага фонду "Дзіцячае сэрца" прафесар хірургіі універсітэта штата Тэнесі (ЗША) **Вільям Новік** узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Указ аб гэтым падпісаў Аляксандр Лукашэнка.

Нагадаем, што з 19 верасня па 3 кастрычніка ў Мінску праходзіць шостая дабрачынная акцыя "Дзіцячае сэрца". У рамках гэтай акцыі 16 высокакваліфікаваных спецыялістаў з міжнароднай брыгады кардыёлагаў на чале з доктарам Вільямам Новікам разам з беларускімі хірургамі робяць складаныя аперацыі на адкрытым сэрцы дзецям з прыроджанымі парокамі сэрца з Беларусі.

**Марына РАХЛЕЙ.**



**ГРОМКИЕ ДЕЛА**

# Невыездные

## Не всякий белорусский чиновник долетит до Америки

Евросоюз и США наконец-таки приняли определенные меры по отношению к белорусским чиновникам, причастным, по мнению спецдокладчика Парламентской Ассамблеи Совета Европы (ПАСЕ) **Христоса Пургуридеса**, автора известного документа, к исчезновениям бывшего министра внутренних дел Беларуси **Юрия Захаренко**, бывшего председателя Центризбиркома РБ **Виктора Гончара**, бизнесмена **Анатолия Красовского** и оператора ОРТ **Дмитрия Завадского**. В понедельник вечером в Брюсселе, а чуть позже в Вашингтоне были распространены пресс-релизы, согласно которым вводится запрет на выдачу виз министру спорта и туризма **Юрию Сивакову**, министру внутренних дел Республики Беларусь **Владимиру Наумову**, генеральному прокурору РБ **Виктору Шейману**, а также командиру бригады специального назначения МВД РБ **Дмитрию Павличенко.**



*Юрий Сиваков.*



*Владимир Наумов.*

В заявлении ЕС говорится, что эти люди подозреваются в причастности к исчезновению и возможному убийству вышеперечисленных оппонентов существующего в Беларуси режима в 1999 и 2000 годах. Евросоюз ранее призывал Минск провести более детальное расследование исчезновений, но не получил ответа от белорусских властей. Юрий Сиваков, напомним, уже пострадал от такого пристального внимания к себе со стороны официальной Европы, когда получил отказ в визе на Олимпиаду в Афины и вынужден был управлять белорусской спортивной делегацией дистанционно.

Официальный Вашингтон приветствует принятое решение ЕС запретить выдачу въездных виз *"белорусским официальным лицам, имевшим отношение к исчезновению трех оппозиционых деятелей и журналиста в 1999 и 2000 годах". "Со своей стороны, согласно соответствующим американским законам и положениям, США предпримут шаги для того, чтобы белорусские официальные лица, имевшие отношение к этим политически мотивированным исчезновениям, не могли свободно приезжать в США"*, — подчеркивается в пресс-релизе Госдепартамента США.

В нем также сообщается, что, по данным принятого в январе 2004 года доклада ПАСЕ, *"имеются заслуживающие доверия свидетельства"* того, что ряд высокопоставленных официальных лиц Беларуси был причастен к исчезновению деятелей белорусской оппозиции. Утверждая, что *"серьезное расследование этих исчезновений до сих пор не проведено"*, Госдепартамент требует, чтобы власти Беларуси *"немедленно призвали к ответственности"* тех, кто виновен в этих исчезновениях. Заявив о *"нарушениях демократических принципов и прав человека в нашей стране"*, Госдепартамент выступил также с предупреждением о том, что продолжение этих нарушений *"еще больше изолирует руководство Беларуси от США и сообщества демократических наций Европы"*.



*Виктор Шейман.*



*Дмитрий Павличенко.*

Сам Христос Пургуридес, чей доклад вызвал настоящую цепную реакцию в Европе и США, считает, что власти Европы и Соединенных Штатов на этой "четверке" не остановятся. *"Я не имею никаких сомнений, что Лукашенко будет в списке визовых запретов,* — сказал Пургуридес в интервью Радио Свобода, — *если не будет решения провести независимое расследование. До того времени, пока не будет независимого расследования, Европейский Союз не имеет другого выбора, как идти на введение санкций против режима".*

*"Политика так же увлекательна, как война. Но более опасна. На войне вас могут убить лишь однажды, в политике — множество раз"*, — сказал когда-то бывший британский премьер **Уинстон Черчилль**. Процедура публичной евро-американской "порки" тех, кто решил сегодня в Беларуси наплевать на всякие моральные принципы, продолжается.

На войне, как на войне?

**Александр СИЛИЧ.**
**Фота photo.bymedia.net**

*В последнее время лукашенковские пропагандисты очень активно рисуют образ неких мифических врагов. Смотрю недавно очередной агитролик одиозных авторов и слышу: НАТО вплотную приблизилось к границам Беларуси, а это — возможная угроза нашей стране.*

*Действительно, и Польша, и Литва, и Латвия стали членами НАТО. Но значит ли это, что со стороны этих соседних стран может исходить угроза Беларуси?*

*Редакция связалась с представителями дипмиссий этих государств и попросила прямо ответить на такой вопрос:*

## Может ли исходить угроза Беларуси с территории Вашего государства?

***Моника САДКОВСКА, пресс-секретарь Посольства Республики Польша в Республике Беларусь:***

— Никакой угрозы со стороны Республики Польша по отношению к Беларуси нет и быть не может. Мы реализуем политику добрососедства.

***Йонас ПАСЛАУСКАС, Чрезвычайный и Полномочный Посол Литовской Республики в Республике Беларусь:***

— Конечно, нет. Как вы знаете, литовское посольство в Минске является контактным посольством НАТО в Беларуси. Мы, как уже не единожды отмечалось, будем делать все, чтобы между НАТО и Беларусью было взаимопонимание, как можно больше контактов и чтобы цели альянса были хорошо известны как белорусскому руководству, так и широкой общественности. Возможно, сказывается какой-то рецидив прошлого: некоторая часть общества мыслит стандартами холодной войны...

Со стороны Литвы как члена НАТО и со стороны альянса нет никаких плохих намерений по отношению к Беларуси. Литва заинтересована в том, чтобы жить в согласии и мире со своим соседом — Беларусью. Про какие-либо вражеские действия мы не можем даже и думать. Мы всегда заявляли, заявляем и делаем все для того, чтобы наше сотрудничество с Беларусью было продуктивным, конструктивным, близким и понятным.

***Рэйно ШМИТС, второй секретарь Посольства Латвии в Республике Беларусь:***

— Это полностью исключено. От нашего государства не могут исходить какие-либо угрозы. По отношению к Беларуси мы настроены очень дружелюбно.

**Ольга КЛАСКОВСКАЯ.**

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## Севярынца знялі за паклёп?

*Лідэр незарэгістраванага "Маладога фронту", кандыдат у дэпутаты ад Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акругі № 17 Павел Севярынец пазбавіўся свайго статусу з-за выступу на мясцовым радыё. Старшыня выбарчай камісіі Святлана Мянжынская паведаміла, што ў звароце Севярынца ўтрымліваўся паклёп на кіраўніка дзяржавы і іншых службовых асоб.*

Чыноўнікаў закранулі наступныя словы палітыка: "Альбо мы хочам і далей пагружацца ў эканамічны, палітычны і грамадскі застой і жыць у краіне, дзе ўсё вырашае толькі адзін чалавек, альбо мы выбіраем еўрапейскую, дэмакратычную будучыню для сябе і сваіх дзяцей". *"Пры тым, што канкрэтнае прозвішча не прагучала, мяне папракнулі, што словамі "вырашае адзін чалавек" я абразіў кіраўніка дзяржавы. Па-другое, зазначылі, што ў нашай краіне — сацыяльная, эканамічная і палітычная стабільнасць па ўсіх параметрах, таму тое, што я сказаў, — не адпавядае рэчаіснасці",* — тлумачыць Севярынец.

А агульны паклёп на службовых асоб усіх узроўняў, па меркаванні акруговай выбарчай камісіі, змяшчаўся ў наступных выказваннях Паўла: "Карупцыя, бюракратыя, хлусня на ўсіх узроўнях". У выніку Севярынцу анулявалі рэгістрацыю.

Зараз малады палітык рыхтуе скаргу ў Цэнтрвыбаркам. *"Я працягваю перадвыбарную кампанію,* — распавёў "Народнай волі" Павел Севярынец. — *Па законе пакуль што маю на гэта права. Наша каманда першая ў вобласці надрукавала агітацыйныя ўлёткі, іх было распаўсюджана больш за 25 тысяч. Мы абышлі не менш за 7 тысяч кватэр, паразмаўлялі з выбаршчыкамі. Мы не робім нічога супрацьпраўнага, а шчыра жадаем бачыць Беларусь сапраўды дэмакратычнай, еўрапейскай і заможнай краінай",* — падсуміраваў Севярынец.

**Міраслава МІРАНОВІЧ.**

## Обращение гражданина Республики Беларусь А.Е.Дубовика к белорусскому народу в связи с объявлением референдума

Уважаемые соотечественники!

К вам обращается гражданин Республики Беларусь, которому в этом году также исполнится 50 лет. Я немного моложе нашего уважаемого президента.

Это обращение меня побудили написать выступление нашего президента по телевидению 7 сентября 2004 г. и его текст, опубликованный в государственных газетах.

Назначен общенациональный референдум с вопросом о возможном предоставлении права А.Лукашенко участвовать в качестве кандидата в президенты на новый срок. Выносится также важный вопрос о существенном изменении первой части статьи 81 Конституции Республики Беларусь.

Давайте откроем саму Конституцию и посмотрим, в чем же тут вопрос. Действующая Конституция гласит, что президент избирается **на пять лет** непосредственно народом Республики Беларусь на основе всеобщего, свободного, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании. Одна и та же личность может быть президентом не более двух сроков.

В выносимой на референдум редакции статьи 81 из раздела "Президент, Парламент, Правительство, Суд" убрано только последнее предложение о том, что можно быть президентом не более двух сроков, т.е. 10 лет.

Уважаемые соотечественники, внимательно прочитайте статью 73 из главы 2 "Референдум (народное голосование)". В ней сказано, что референдумы могут проводиться для решения важнейших вопросов государства и общественной жизни. Да, по статье 74 президент может назначать референдумы по личной инициативе, но, исходя из статьи 73, **для решения важнейших вопросов государства и общественной жизни.**

А где здесь тот нерешенный вопрос, затрагивающий государство или всех нас? Ведь этот вопрос уже давно решен Конституцией. И решен этот вопрос однозначно: **два срока и не больше** (ст.81).

Если мы пойдем и проголосуем "за", то это приведет к тому, что никому больше не быть никогда новым президентом.

В своем обращении к народу А.Лукашенко считает, что вся чистота и созданная нами красота попадет в руки "безответственного, случайного политика" ("Советская Белоруссия", 8 сентября 2004 г.). А я верю, что среди нас есть люди, достойные быть и вторым, и третьим президентами. Я уверен, что у нас в стране есть отличные политики, которые смогут продолжить все то хорошее, что создано, и исправить все то, что сделано недостаточно хорошо.

Президент — главный гарант демократии в Республике Беларусь. Но если состоится референдум, то это нас уже окончательно приведет к авторитарной стране.

Конечно, тяжело терять возможность руководить целой страной, решая с другими государствами действительно важнейшие вопросы, снять маршальские погоны и стать просто гражданином страны.

Я, мои соотечественники, предлагаю:

1) не нарушать Конституцию Республики Беларусь и **всем выйти** на референдум, но проголосовать так, как велит вам гражданская совесть и требует Конституция;

2) уважаемый парламент, обсудите вместе с юристами законность именно такого референдума. Ведь он важен только для одного человека.

Закончить свое обращение я хочу словами Кастуся Калиновского: "Не народ для ўрада, а ўрад для народа". Через пять лет А.Г.Лукашенко может еще раз стать кандидатом на должность президента, но это будет по закону.

Я обещаю принять участие в референдуме и проголосовать так, как мне велит моя совесть.

**А.Е.ДУБОВИК,**
**гражданин Республики Беларусь,**
**кандидат экономических наук,**
**доцент.**

**P.S.** *Это обращение передано также в редакции следующих газет:*
— *"Советская Белоруссия",*
— *"Рэспубліка",*
— *"Народная газета",*
— *"АиФ в Белоруссии".*

**ДУЭЛЬ**

***Валерый ФРАЛОЎ:***

## «Я здзіўлены такім стаўленнем да суда...»

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Валерый Фралоў** патрабуе з шэф-рэдактара газеты "Обозреватель" **Сяргея Атрошчанкі** 100 мільёнаў беларускіх рублёў.*

*А журналістка газеты "Обозреватель" **Ганна Мураўская** хоча, каб дэпутат Фралоў заплаціў ёй 15 мільёнаў. За нібыта абражаныя гонар і годнасць.*

Учора ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачалося слуханне справы па іску аб абароне гонару і годнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў **Валерыя Фралова** да прадпрымальніка **Сяргея Атрошчанкі.**

Нагадаем, што 15 жніўня 2003 года ў штотыднёвіку "Обозреватель", шэф-рэдактарам якога з'яўляецца прадпрымальнік С.Атрошчанка, быў надрукаваны артыкул журналісткі **Ганны Мураўскай** *"Депутаты Костян, Новосяд и Фролов — личностные антисемиты?"*. У публікацыі са спасылкай на словы старшыні Саюза яўрэйскіх арганізацый і суполак Беларусі **Леаніда Левіна** сцвярджалася, што дэпутаты Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Навасяд** і **Валерый Фралоў** прапагандуюць асобасны антысемітызм, *"причем исповедуют они нелюбовь к евреям везде, где бы ни находились"*.

Аднак Леанід Левін запэўнівае, што гэтыя словы прыпісала яму журналістка Мураўская. Пра гэта Левін напісаў у лісце да газеты "Обозреватель" адразу пасля з'яўлення вышэйзгаданага артыкула. Ён паведаміў, што, наадварот, можа прывесці шмат прыкладаў, калі Навасяд і Фралоў аказвалі дапамогу Саюзу яўрэйскіх арганізацый і суполак Беларусі. Аднак рэдакцыя адмовілася друкаваць абвяржэнне Леаніда Левіна. Больш за тое, ТАА "Альянс-Медыя" звярнулася ў суд з іскам да газеты "Народная воля", якая ўзяла пад абарону лаўрэата Ленінскай прэміі, аднаго з аўтараў мемарыяльнага комплекса "Хатынь" Леаніда Левіна. Але кропкі над "і" не былі аб'ектыўна расстаўлены судом: ні рэдакцыя "Обозревателя", ні яго кіраўніцтва так і не прынеслі сваіх прабачэнняў дэпутатам. І тады Фралоў сам звярнуўся ў суд.

28 верасня ні сам Атрошчанка, ні журналістка Мураўская ў суд не з'явіліся. Прыйшла толькі адвакат, якая будзе прадстаўляць іх інтарэсы. Яна прад'явіла адпаведныя дакументы і заявіла, што журналістка з'ехала ў камандзіроўку. Адвакат **Алена Чарэй** таксама папрасіла, каб справу адклалі, бо, на яе погляд, немагчыма пачынаць слуханні без аўтара матэрыяла.

Валерый Фралоў быў вельмі здзіўлены падобнымі адносінамі да суда.

***"Я — дэпутат Палаты прадстаўнікоў. У мяне сёння таксама шмат спраў. Але я адклаў іх, бо паважаю наш "самы гуманны ў свеце" суд. Я сёння павінен быць на вельмі важнай сустрэчы ў Маскве, але з-за суда я адклаў паездку. Не разумею сітуацыі і здзіўлены такім стаўленнем да суда... Самі не прыйшлі, даслалі нейкія паперы..."*** — справядліва здзівіўся Фралоў.

У связі з гэтым суддзя **Святлана Арлова** запыталася ва ўдзельнікаў працэсу, ці атрымоўвалі яны позвы ў суд. І Фралоў, і адвакат Чарэй сказалі, што яны ніякіх папер з суда не атрымоўвалі, а пра пачатак працэсу даведаліся праз судовую канцылярыю і сродкі масавай інфармацыі. Суддзя была здзіўлена, бо, паводле яе слоў, позвы адпраўлялі ўсім двойчы, і нават ёсць паведамленне, што адказчыкі па справе позву ўсё ж такі атрымалі.

*"Будзем высвятляць праз пошту, што здарылася..."* — сказала яна.

У судзе таксама Фралову ўручылі іск журналісткі **Ганны Мураўскай** аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі. Журналістка просіць суд не задавальняць патрабаванні Фралова і патрабуе з яго 15 мільёнаў рублёў.

Пачуўшы гэта, Фралоў, шчыра кажучы, быў у разгубленасці... Аднак, нягледзячы ні на што, Валерый Дзмітрыевіч не мае намеру адклікаць свой іск.

*"Я спадзяюся выйграць гэты іск,* — гаворыць дэпутат. — *І спадзяюся, што ў гэтым мне дапаможа наш суд, самы гуманны і справядлівы ў свеце..."*

**Марына КОКТЫШ.**

Народная Воля
29 ВЕРАСНЯ 2004 г.

ПУЛЬС

## Нарэшце пабудавалі

У горадзе Рэчыца Гомельскай вобласці ўведзена ў эксплуатацыю станцыя абезжалезвання, якую будавалі 11 гадоў.

На ўзвядзенне і аснашчэнне гэтага аб'екта зрасходавана больш за 19 млрд. рублёў — грошы паступалі як з бюджэту, так і ад спонсараў, вытворчага аб'яднання "Беларуснафта".

Станцыя абезжалезвання ўключае 12 артэзіянскіх свідравін глыбінёй ад 56 да 180 метраў, а таксама станцыю другога пад'ёму і фільтравання вады, лабараторыю і адміністрацыйны комплекс. Сучаснае лабараторнае абсталяванне дазваляе кантраляваць усе неабходныя параметры якасці вады.

**Алеся ВЯТРОВА.**

## 320 мільёнаў на рамонт туалетаў

Гарвыканкам Мінска даручыў адміністрацыям раёнаў і унітарнаму прадпрыемству "Гаррамаўтадар Мінгарвыканкама" правесці да канца гэтага года рамонт усіх грамадскіх туалетаў, якія знаходзяцца ў іх гаспадарчым веданні.

Як зазначаецца ў рашэнні гарвыканкама, адрамантаваны будуць 11 грамадскіх туалетаў, размешчаных у скверы Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, а таксама на вуліцах Магілёўскай, Рабкораўскай, Свярдлова, Славінскага, Каліноўскага, Гікала, Шырокая, Сердзіча і Адоеўскага.

На прывядзенне ў парадак месцаў грамадскага карыстання з гарадскога бюджэту будзе выдзелена 320 млн. 409 тысяч рублёў; ад 7,9 да 65,6 млн. рублёў — на адзін туалет.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Узмоцнены рэжым аховы мяжы

З 27 верасня па 3 кастрычніка — перыяд правядзення ў краіне комплексных аператыўна-тактычных вучэнняў (КАТВ) "Шчыт Айчыны — 2004" — пагранічныя войскі Рэспублікі Беларусь пераведзены на ўзмоцнены рэжым аховы мяжы. Аб гэтым паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранвойскаў. На ахову дзяржаўнай мяжы выдзелены дадатковыя сілы і сродкі, актывізавана ўзаемадзеянне пагранічнікаў з КДБ, МУС і ДМК краіны, мясцовымі органамі ўлады. Гэтыя захады зроблены для перакрыцця каналаў нелегальнай міграцыі, кантрабанды зброі, боепрыпасаў, наркотыкаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## А.Байдачны назваў тых, хто сыграе супраць Малдовы і Італіі



Галоўны трэнер нацыянальнай футбольнай зборнай Анатоль Байдачны сёння аб'явіў склад на адборачныя матчы чэмпіянату свету 2006 года з камандамі Малдовы і Італіі (9 і 13 кастрычніка).

Галоўны трэнер выклікаў на збор 22 футбалістаў. Галкіперы: Васіль Хамутоўскі ("Сцяўа", Бухарэст), Аляксандр Суліма ("Нёман", Гродна), Юрый Жаўноў (БАТЭ, Барысаў). Абаронцы: Сяргей Штанюк, ("Шыннік", Яраслаўль), Дзмітрый Раўнейка ("Ротар", Валгаград), Сяргей Ясковіч (ФК, "Масква"), Андрэй Лаўрык, ("Амкар", Перм). Паўабаронцы: Сяргей Гурэнка ("Лакаматыў", Масква), Аляксандр Кульчы ("Шыннік", Яраслаўль), Максім Рамашчанка ("Дынама", Масква), Дзяніс Коўба ("Крылы Саветаў", Самара), Сяргей Амельянчук ("Арсенал", Кіеў), Аляксей Сучкоў ("Карпаты", Львоў), Ігар Тарлоўскі, Уладзімір Карыцька ("Аланія", Уладзікаўказ), Дзяніс Сашчэка ("Тарпеда", Жодзіна).

Форварды: Віталь Булыга ("Амкар", Перм), Генадзь Блізнюк ("Сокал", Саратаў), Вячаслаў Глеб ("Гамбург"), Віталь Кутузаў ("Сампдорыя", Генуя), Леанід Ковель ("Дынама", Мінск).

Выкліканы на збор таксама і паўабаронца кіеўскага "Дынама" Валянцін Бялькевіч, які пасля нядаўняй траўмы ўжо трэніруецца ў агульнай групе свайго клуба.

Нагадаем, што ў сувязі з дыскваліфікацыяй не зможа ўзяць удзел у гульні супраць зборных Малдовы і Італіі паўабаронца нямецкага "Штутгарта" Аляксандр Глеб.

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Сутыкнуліся два трамваі

Дарожна-транспартнае здарэнне з удзелам двух трамваяў адбылося ўчора раніцай у Мінску.

Як паведамілі БелаПАН ва Упраўленні Дзяржаўтаінспекцыі ГУУС Мінгарвыканкама, у 7.15 на вуліцы Ульянаўская, у раёне стадыёна "Дынама", трамвай "№ 7 урэзаўся ў трамвай № 1, які тармазіў перад прыпынкам. У выніку ДТЗ вадзіцель аднаго з трамваяў атрымаў цяжкія траўмы, 3 пасажыры — лёгкія.

Затрымка ў руху склала 1 гадзіну 10 хвілін.

## Жанчына кінулася пад цягнік метро

Скончыць жыццё самагубствам паспрабавала раніцай 28 верасня ў мінскім метро 54-гадовая жанчына.

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама, надзвычайнае здарэнне адбылося прыкладна а 7-й раніцы на станцыі "Плошча Леніна". Жанчына кінулася пад цягнік, які следаваў у бок "Інстытута культуры". У выніку яна атрымала чэрапна-мазгавую траўму цяжкай ступені і была шпіталізаваная.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Людмила ПОСТОЯЛКО, министр здравоохранения Беларуси:*

# «Больной не имеет права за бюджетные средства говорить «я хочу» или «не хочу»

В понедельник министр здравоохранения Людмила Постоялко проводила традиционную встречу с журналистами. На этот раз тема пресс-конференции была обозначена так: "Доступность и качество — основные приоритеты организации медицинского обслуживания населения Республики Беларусь".

*"Доступность не должна быть связана ни с социальным статусом, ни с местом проживания, ни с национальностью. Это право гарантировано и Конституцией, и Законом о здравоохранении",* — так начала встречу Людмила Андреевна.

Затем министр долго и подробно рассказывала о том, что сегодня происходит в системе здравоохранения: проводятся ремонты ведущих клиник страны, областных, районных и участковых больниц, создаются профильные межрайонные центры и Республиканские научно-практические центры, реализуется программа по развитию первичной медико-санитарной помощи. Не остался Минздрав в стороне и от реализации госпрограммы по возрождению села. Как заметила министр, сегодня сельские амбулатории обслуживают территориальные участки радиусом 15 км с населением 3—4 тысячи человек. При больницах есть машины "скорой помощи", чтобы при необходимости врач мог осмотреть больного на дому.

Извечный вопрос обеспеченности медицинскими кадрами сельских районов Минздрав пытается решить вроде бы просто: обеспечить врачей жильем и добиться повышения зарплаты. *"Мы ставим вопрос, чтобы домики, которые строят для специалистов сельского звена, были доступны и для медработников: врачей и медсестер,* — подчеркнула Людмила Постоялко. — *Фактически на 80% зарплата у врачей сельских амбулаторных служб выше, чем у узких специалистов амбулаторно-поликлинической службы города. А средняя зарплата в системе здравоохранения за август месяц составила 340 тысяч рублей.*

*Мы разработали график повышения заработной платы врачей участковых больниц и фельдшерско-акушерских пунктов, районных больниц — врачей абсолютно всех уровней, от республиканского до участкового звена. И настаиваем на том, чтобы 20% от фонда заработной платы шли именно на повышение заработной платы первичному звену здравоохранения".*



Корреспондент "Народной воли" задала министру такой вопрос:

**"Если Вы говорите о том, что доступность не должна быть связана с местом проживания, как объяснить тот факт, что мы сегодня лечимся только по месту жительства. И, например, белорусу, проживающему в райцентре, практически невозможно попасть в Республиканский центр. Врач районной больницы в лучшем случае выписывает направление в областную больницу".**

— То, что врач направляет в областную больницу — это правильно, — заметила Людмила Андреевна. — У нас там специализированные отделения, где прежде всего можно провести диагностику на очень высоком уровне. В тех рамках, в которых возможно, там проводится и лечение. Если же специалисты областной больницы по той или иной причине не могут оказывать больному помощь, никаких вопросов у них нет по направлению пациентов в республиканские центры.

А что значит пациент хочет? Нигде в мире нет такого. Если он хочет, тогда он платит. В Великобритании, в Скандинавии такие же схемы оказания медицинской помощи, как у нас, и такое же бюджетное финансирование. Например, в Австрии операции по эндопротезированию делают планово. Очередь может быть и на год. Пациент говорит: "Нет, хочу сейчас". Пожалуйста, он оплачивает все расходы, и операция может быть проведена без очереди. Так и у нас. Больной не имеет права за бюджетные средства говорить "я хочу" или "не хочу". Он должен положиться на специалиста, должен доверять специалисту. А специалист должен в полном объеме на уровне своего учебного учреждения оказать необходимую помощь. Если по каким-то причинам он не справляется, то может пригласить специалиста из Республиканского центра или направить туда пациента. А если у вас собственная прихоть, оплатите и лечитесь.

**— А как быть с правом на бесплатное медицинское обслуживание?..**

— Вы не путайте одно с другим. Право на бесплатную медпомощь сохраняется в полном объеме. Вы имеете право лечиться везде, от сельской участковой больницы до Республиканского центра. Но для этого должна быть потребность, а не ваша прихоть. Эту потребность определяет лечащий врач. А свою прихоть каждый должен удовлетворить только за свои деньги.

...Интересно, а наши депутаты, высокопоставленные чиновники, районные и областные вертикальщики "выбивают" направление на обследования у участковых терапевтов? Или выполняют "свои прихоти" за очень дополнительные деньги? Тогда за какие и могут ли они за них отчитаться?

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Верните наши деньги!

*Слово к гражданам, которые не получили свои сбережения после распада Советского Союза*

Прошло более десяти лет после распада Советского Союза и появления новых независимых государств, в том числе и Беларуси.

Понимая экономические трудности становления нового государства, многие граждане терпеливо ждали укрепления экономики Беларуси, не требуя и даже не напоминая о своих сбережениях, размещенных ранее в сберкассах СССР. Памятуя о многочисленных государственных займах военного и послевоенного времени, многие предполагали, что их сбережения, которые они юридически имели право получить от России как от правопреемницы СССР и от Беларуси, которая получила фактический займ от своих граждан, будут полностью возвращены после укрепления экономики обеих стран.

Сегодня в преддверии выборов и референдума своевременно напомнить всем заинтересованным гражданам о том, что новое руководство страны обязано вернуть всем своим гражданам все долги по всем сберегательным книжкам советского образца.

При этом следует учитывать, что все предыдущие выплаты, в сущности, являли собой беззастенчивый обман граждан.

Если взглянуть на этот вопрос с точки зрения математики, то споры о том, какой эквивалент у.е. принять для выплаты вкладов, решаются просто.

По разным официальным источникам, один советский рубль был равен от 0,6 до 0,9 доллара США. Средняя величина получается 0,75 у.е. Срочные вклады в СССР принимались под 3% годовых. Практически последние вклады в сберкассах датированы 1992 годом. За 12 лет вклады должны были увеличиться на 36% без учета их капитализации. Поэтому сегодня вкладчики имеют право и должны получить все свои сбережения по советским сберкнижкам из расчета не менее одного доллара США за один советский рубль.

На вопрос, где государству взять эти деньги, ответ находится в государственных СМИ: преуспевающая экономика Беларуси только в сельском хозяйстве этой осенью сэкономила 0,5 миллиарда долларов.

Но есть и другие варианты ответов:

1.Выплата белорусскими товарами, но без их торговых наценок (15—25%).

2.Оплата таможенных пошлин в зачет выплат.

3.Размещение выплат на государственные депозиты под эксклюзивные проценты на длительный срок.

4.Частичная оплата вкладов Россией своими товарами, в том числе автомобилями, но тоже без торговых наценок и с самовывозом.

Имеются и другие приемлемые для государства и для граждан варианты.

Дело не в них, а в том, что нет желания у руководства страны полностью и без обмана вернуть своим гражданам их сбережения.

В связи с этим просьба ко всем заинтересованным людям: в будущем голосовать только за тех кандидатов в парламент и в президенты, которые честно и с благодарностью вернут в течение одного года все вклады по всем сберкнижкам советского образца без обмана и подтасовок.

**В.Н.ГОЛОВАЧ, пенсионер, житель Минска.**

## А пра дзяцей яны не падумалі!

Калі брыгада ратавальнікаў прыехала па экстраным выкліку на пажар у вёску Мігуны Пастаўскага раёна, то нават у гэтых мужных людзей схамянуліся сэрцы. На балконе задымленай двухпавярхоўкі стаялі малыя дзеці, плакалі і крычалі аб ратунку.

Пажарныя дапамаглі дзеткам, а вось іх бацькоў так і не адшукалі: абое, і бацька, і маці, працягвалі недзе ў аднавяскоўцаў пачатую на досвітку п'янку.

Пазней судзі расказалі, што пажар у кватэры, дзе жыла шматдзетная сям'я, пачаўся ад кароткага замыкання зношанай электраправодкі, да якой у пітушчага гаспадара ўсё "не даходзілі рукі". Муж і жонка, хоць і нецвярозыя, усё ж паспелі выбегчы на паветра, а вось пра дзяцей нават не ўспомнілі, пакінулі ўсіх чацвярых у доме. І калі б не жыльцы суседняй кватэры не выклікалі пажарных, у Мігунах стала б менш маленькіх жыхароў.

Так, напэўна, і будзе, калі ў кватэры, дзе толькі выпадкова не адбылася трагедыя, здарыцца чарговы пажар...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# А за акном цвітуць вяргіні...

Ад адной толькі назвы — рэанімацыя, па душы прабягае скразнячок. Заўсёды, як іду ля Дзятлаўскай раённай бальніцы, позірк міжволі прыцягваюць вокны першага паверха, той куточак, дзе размешчана гэта аддзяленне. І кожны раз замірае сэрца ад усведамлення таго, што там, за прасторнымі чыстымі вокнамі, полымем тоненькай свечкі цепліцца нечае жыццё, то ўскалыхнецца, вось-вось гатовае пагаснуць, то разгараецца зноў. Нават не ведаючы тых людзей, малю Бога аблегчыць іх пакуты, вярнуць да жыцця, даць цярпення і сілы медыкам, якія ў гэтых сценах змагаюцца з цяжкімі хваробамі. Сярод іх — урач-рэаніматолаг Андрэй Данілевіч (*на здымку*). Прырода нічога не пашкадавала для Андрэя Леанідавіча. Яна шчодра надзяліла яго прыгажосцю і розумам, а галоўнае, дала добрую і спагадлівую душу. Людзі, якім даводзілася лячыцца ў гэтага доктара, да скону дзён не забудуць яго мілую ласкавую ўсмешку, спачуванне ў задумлівых стомленых вачах. Скажаце, ну і што, ад гэтага хвораму менш баліць? Сапраўды, менш. А галоўнае, калі ўсміхаецца доктар, то здаецца, што справы твае не такія ўжо і дрэнныя, бо ён жа лепш ведае, што да чаго. А спачуванне тваёй бядзе чалавека, ад якога ў гэтыя хвіліны ў многім залежыць лёс, даражэй за ўсё багацце свету. Андрэй Леанідавіч умее падбадзёрыць, абнадзеіць. Ён валодае дарам уваскрашэння не толькі цела, але і душы.

Андрэй Данілевіч нарадзіўся і вырас у пасёлку Наваельня, што на Дзятлаўшчыне. Там скончыў школу, там да яго прыйшла мара прысвяціць сябе высакароднай прафесіі — збаўляць людзей ад пакут. Аднак з першага разу паступіць у медыцынскі інстытут не ўдалося. Паражэнне не прывяло да адчаю, не прымусіла адступіць ад задуманага. Верыў у свае сілы, і на другі год стаў студэнтам Гродзенскага медыцынскага інстытута. Але, на жаль, праз год вучобу прыйшлося спыніць, бо прызвалі ў армію. Адслужыў і зноў вярнуўся ў студэнцкую аўдыторыю.

Атрымаўшы спецыяльнасць анэстэзіёлага-рэаніматолага, год стажыраваўся ў Гродне, спасцігаў тонкасці сваёй складанай прафесіі, каб працаваць самастойна.

Нягледзячы на малады ўзрост, доктара Данілевіча ведаюць многія жыхары раёна, бясконца ўдзячны за выратаванне ад хвароб, за талент і веды, майстэрства і клопаты. А работа ў яго, як кажуць, не дай Бог — аказваць экстранную медыцынскую дапамогу цяжка хворым людзям, якія знаходзяцца на мяжы жыцця і смерці. Тут патрэбна вялікае прафесійнае майстэрства, уменне валодаць сваімі пачуццямі і эмоцыямі, не мітусіцца, а дзейнічаць хутка і дакладна, бо кожная мінута, нават кожная секунда на ўліку.

**— Вы доўга прывыкалі да сваёй работы, да абставін, у якіх цяпер працуеце?** — пытаю ў Андрэя Леанідавіча.

— Прывыкаў — гэта можа не зусім канкрэтнае значэнне. Прывыкаць не было калі. Перад табой хворы, якому патрэбна экстранная дапамога, яму дрэнна, ён можа памерці. Спачатку душу запаўнялі эмоцыі: нейкі страх за дрэнны зыход, хваляванне. А гэта ўсё справе не дапамагае, хутчэй наадварот, перашкаджае. Прыйшлося вучыцца засяроджваць увагу на галоўным, каб не дапускаць лішніх рухаў, каб кожны быў узважаны, далікатны. Паступова навучыўся мабілізаваць волю, веды, энергію. Няпроста ўсё гэта. Ведаеце, бываюць выпадкі, калі хвораму, які і так ледзь не курчыцца ад болю, даводзіцца рабіць яшчэ больш балюча, каб ратаваць жыццё. Адлік часу ідзе на секунды, няма калі прымяняць абязбольваючыя сродкі. Даводзіцца няшчаснаму цярпець. Але якая радасць, калі чалавек вяртаецца да жыцця. Гэта сапраўднае, ні з чым не параўнальнае шчасце і для яго, і для нас, медыкаў.

**— Андрэй Леанідавіч, які выпадак з урачэбнай практыкі Вам запомніўся больш за ўсё?**

— Ведаеце, такіх выпадкаў іншы раз бывае на дзень па некалькі. Але гэты запомніўся таму, што я толькі пачынаў працаваць. У хворага два разы за ноч пераставала біцца сэрца. Уласна кажучы, быў ён амаль што на тым свеце. Але мы выцягнулі! Шмат гадоў мінула з таго часу. Жыве наш пацыент! І нядрэнна сябе адчувае.

Днём у аддзяленні рэанімацыі дзяжураць тры ўрачы, ноччу — адзін. Дзве медыцынскія сястры дзяжураць кругласутачна. Андрэй Леанідавіч з цеплынёй адклікаецца пра сваіх калег-урачоў, а таксама медыцынскіх сясцёр, санітарак.

...На дзвярах аддзялення рэанімацыі чырвоная, як кропля крыві, кнопка званка. Сваякі хворых, якія тут ляжаць, націскаюць яе і з заміраннем сэрца, нібы голасу самога Бога, чакаюць, калі выйдзе ўрач і нешта ім скажа. І скажа абавязкова суцяшальнае, дасць магчымасць паверыць у лепшае.

— Я заўсёды стараюся падрабязна расказаць людзям пра ўсё, што іх цікавіць. Не магу адмахнуцца кароткімі дзяжурнымі фразамі, бо такія фразы даюць ім падставы для яшчэ большага хвалявання. Усе мы людзі, і кожнаму хочацца ўвагі і разумення. Асабліва, калі чалавек стаіць тут, ля дзвярэй аддзялення рэанімацыі...

Медыкі для мяне, ды, напэўна, не толькі для мяне, асобы незвычайныя, надзеленыя нейкай магічнай сілай. Іншы раз мы патрабуем ад іх немагчымага, забываючыся, што яны таксама людзі, а не богі. Яны стамляюцца і памыляюцца, ім таксама патрэбна добрае спагадлівае слова і шчырая падзяка за такую нялёгкую, такую патрэбную работу.

— Некаторыя думаюць, што калі чалавек трапіў у рэанімацыю, то ўжо ўсё, трэба рыхтавацца да горшага. Зусім не. Мы яшчэ паваюем і, дасць Бог, пераможам. Вельмі многіх людзей вяртаем да жыцця. І ганарымся гэтым. Рады можа не менш, чым яны самі і іх блізкія, — кажа доктар.

Бываюць у рэанімацыі такія хвіліны, калі ў палатах усё спакойна. Андрэй Леанідавіч бачыць, што лячэнне дае плён. Тады ён падыходзіць да акна і нейкі час любуецца, як на двары цвітуць вяргіні. На душу маладога доктара сыходзіць ціхая радасць. Можа ад таго, што ладзяцца справы, што людзі паважаюць і цэняць яго работу. А можа, ад таго, што на дварэ восень, якая памнажае сілы, бадзёрыць, будзіць мары. Дык няхай жа ўсе яны збываюцца, няхай у яго будзе столькі шчасця, колькі сам падарыў людзям.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ЗАКУЛІССЕ

*Андрэй КУРЭЙЧЫК:*

# «Адбываецца нематываваны наезд на культуру»

*Драматурга Андрэя Курэйчыка не пусцілі ў эфір*

Напрыканцы жніўня Белтэлерадыёкампанія запрасіла маладога драматурга Андрэя Курэйчыка на радыёканал "Культура" рабіць перадачу, прысвечаную тэатру. Было падрыхтавана тры праграмы, але ў эфіры прагучала ўсяго адна — аб псіхалагічнай праблеме тэатра. Роўна праз два дні Андрэю Курэйчыку паведамілі: выхад праекта прыпынены, а літаральна некалькі дзён таму праграму закрылі наогул. *"Сукупнасць фактаў дазваляе казаць пра палітычную падаплёку закрыцця праграмы",* — кажа Андрэй Курэйчык.

— *Пасля першага эфіру мяне і гасцей выклікала кіраўніцтва радыёканала і выказала падзяку за добрую перадачу. Таму тое, што адбылося пасля, мне зусім незразумела. Наш праект не быў звязаны з палітыкай: падчас эфіру не прагучала ніводнага неасцярожнага слова ў бок кіраўніцтва краіны. Супрацоўнікі "Культуры" сказалі: праграма закрыта "па рашэнні зверху". На працягу двух тыдняў я адмыслова не паведамляў пра гэта ў прэсу, таму што пытаўся высветліць, ці на самай справе праект прыпынены, ці ён наогул зачынены. Некалькі дзён таму мяне "абрадавалі": праект закрыты канчаткова, і да эфіру мяне не пусцяць,* — гаворыць малады драматург.

На абарону Курэйчыка паўстала ўся міжнародная тэатральная супольнасць. Больш за сто аўтарытэтных дзеячаў тэатра, арганізацый з усяго свету напісалі лісты пратэсту з нагоды закрыцця культуралагічнай перадачы — Шатландская асацыяцыя драматургаў, буйнейшыя фестывалі Еўропы, Берлінскі фестываль маладых тэатральных дзеячаў, амерыканскія пісьменніцкія арганізацыі, арт-фонды, пенцэнтры, французскія тэатры Швейцарыі, Ірландыі, Расіі. Драматургічная супольнасць Лондана наогул запрасіла Курэйчыка на свой аўстрыйскі форум зрабіць даклад пра сітуацыю ў Беларусі.

*"Адбываецца нематываваны наезд на культуру,* — даволі эмацыянальна выказваецца Курэйчык. — *Палітыка не павінна ўмешвацца ў мастацтва. Усё гэта нагадвае сітуацыю з беларускімі музыкамі, на якіх пачалі ціснуць пасля акцыі 21 ліпеня. Хаця якія дачыненні добрая музыка можа мець да палітыкі? Тэатр таксама па сваім прызначэнні павінен знаходзіцца па-за палітыкай... Нельга падпарадкоўваць палітычнай кан'юнктуры працу тэатраў, музыкантаў, мастакоў... На жаль, зараз такая тэндэнцыя назіраецца. І яна мяне вельмі непакоіць, яна непакоіць маіх калег за мяжой. Я, шчыра кажучы, знаходжуся ў пэўным шоку... Калі ўжо настолькі ўсё далёка заходзіць, то робіцца вельмі цяжка працаваць у гэтай краіне і ўзнікае адзінае жаданне — з'ехаць адсюль".*

**— Гэта пакуль што толькі жаданне, альбо ёсць ужо пэўныя планы на гэты конт?**

— У мяне ёсць такая магчымасць. Даўно для мяне адчынена Масква, у тэатры імя Пушкіна праходзяць мае рэпетыцыі і ставяцца п'есы. Па-першае, я не магу з'ехаць, паколькі яшчэ не скончыў некалькі праектаў, па-другое, мой выпадак — адзіны з...

Хочацца высветліць: ці гэта пазіцыя дзяржавы, ці проста нейкая памылка? Спадзяюся, што гэта проста часовае зацьменне... Хаця ілюзіі вельмі хутка праходзяць. Калі такі ціск будзе працягвацца, то, канешне, я з'еду з Беларусі...

**— Вы заўсёды падкрэслена адмяжоўваліся ад палітыкі. Што ў Вашай творчасці магло выклікаць такое раздражненне ў чыноўнікаў?**

— Я сапраўды ніколі не займаўся палітычнай агітацыяй і не з'яўляўся членам партый ці рухаў па той простай прычыне, што палітыкі заўсёды займаюцца нейкімі часовымі рэчамі, нават калі гэта вельмі важныя падзеі, а мастацтва — гэта назаўсёды, гэта абагульнены духоўны вопыт чалавека, народа, які застаецца для будучых пакаленняў. У мяне складваецца ўражанне, што ў "вярхах" узнікае страх проста перад любой формай актыўнасці: калі чалавек не выказвае "актыўную лаяльнасць", ліслівасць, то яго аўтаматычна запісваюць у шэрагі нелаяльных. Каб цябе любіла ўлада, трэба ўвесь час прызнавацца гэтай уладзе ў любові, агітаваць за яе, удзельнічаць у афіцыйных мерапрыемствах... Я ніколі гэтым не займаўся, паколькі я не зусім падзяляю многія мэты і ўстаноўкі нашых дзяржаўных чыноўнікаў. Зараз, на жаль, пачынае дзейнічаць прынцып, што калі ты нам не сябра, то ты нам — вораг. І гэта самае страшнае. Чалавек мастацтва ніколі не будзе сябрам чыноўніка, ён ім не можа быць. Калі ўзгадаць гісторыю Савецкага Саюза, то лепшыя творы мастацтва былі створаны менавіта тымі людзьмі, што знаходзіліся ва ўнутранай апазіцыі да ўлады, — Блок, Ахматава, Цвятаева, Бунін, Пастарнак, Быкаў. Тых, хто пытаўся лізаць уладзе ногі, сцерла гісторыя. Сучасныя чыноўнікі гэтага не ўсведамляюць, як, магчыма, і саму прыроду і задачы мастацтва.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

*Афіцыйна*

***Святлана КРАСКОЎСКАЯ, кіраўнік прэс-службы Белтэлерадыёкампаніі:***

— Ніякіх афіцыйных лістоў, зваротаў і прэтэнзій з боку спадара Курэйчыка на адрас Белтэлерадыёкампаніі не паступала. Таму, уласна кажучы, каментаваць няма чаго... Яго праграму ніхто не закрываў: з самага пачатку не было размовы пра цыклічнасць перадачы. Кіраўніцтва радыёканала "Культура" прапанавала Курэйчыку зрабіць пілотную (пробную) праграму, але праект не быў зацверджаны.

ШЧЫРА

## «Патрыёты» з глыбінкі

*— Не, кум Іван, што ні кажы,*
*Патрэбен нам Туркменбашы,*
*Але не той, а свой, са Шклова —*
*Таго, што блізу Магілёва...*
*— Ты праўду кажаш, кум Пятрок,*
*Дык рэферэндум жа, браток,*
*Наш "бацька" сам прапанаваў.*
*Скумекаў ты, што ён сказаў?*
*Каб мы сказалі — давяраем,*
*Яму навечна дазваляем*
*У прэзідэнтах заставацца...*
*— О, ён, як кажа, так і робіць,*
*і абяцаў, што дасць заробіць...*
*— Во-во, пагэтаму, чым новы,*
*Дык лепей "бацька" пажыццёвы...*
*— Але ж, халера, —*
*Канстытуцыя...*
*Яшчэ "пяцёрка" гэта*
*з плюсам...*
*— Але ж і "бацька", браце, з вусам!*
*Ён добра знае, як зрабіць,*
*Каб Канстытуцыю змяніць,*
*Каб атрымалася прыгожа.*
*Не першы раз — ён гэта зможа!*
*— Ты гэта, куме, праўду кажаш,*
*Злаўчыцца так — і не заўважыш!*
*Ўзаклад пабіцца я гатоў,*
*Што дулю выкусіць Фралоў!*
*— Ну калі так — пайшлі да Мані,*
*Ёсць у заначцы "мані-мані",*
*А ў хаце сала, агурок...*
*— Дык што стаім, пайшлі, браток!*

*За самагонам без турботы*
*Пайшлі да Мані "патрыёты"...*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ, ветэран Айчыннай вайны.**

*Слаўгарад.*

